# Таленты нашага краю

## ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАЯ СТАРОНКА

**Мікола МІНЧАНКА**

### РУНЬ

Быў добры дождж, які абмыў дарогі,
І пра каханне многім нашаптаў.
І пахне лёгкім водарам атаў.
І робішся больш стрыманы і строгі.

У сугуччы слоў знаходзім мы уцеху.
Адценкамі здзіўляе кожны гук.
О колькі радасцей і мук
Маленства прытаіла у сваім смеху.

Усё, што ёсць на радаснай зямлі,
Абмыта чыстымі дажджамі.
І аблачынкай шчасце век над намі,
Пакуль рунеюць родныя палі.

### МАЯ ЛЮБОЎ

Хоць думкам іншым цесна, цесна,
Мне трэба помніць пра любоў сваю.
Мая любоў, як тая песня,
Якую толькі я спяю.

Не дапамогуць мне падказкі,
Як што рабіць, каб быў тут лад.
Мая любоў, як мары-казкі
І як дзівосны светлы сад.

Усяму па-свойму тут звяршацца:
Цвісці, шумець і наліваць.
І мне па-свойму век смяяцца,
Або маўчаць, ці бедаваць.

Хоць думкам іншым цесна, цесна,
Мне трэба помніць пра любоў сваю.
Мая любоў, як тая песня,
Якую толькі я спяю.

### ДЗЯКУЙ, МАЛАДОСЦЬ!

Плывуць, плывуць удалеч караблі.
І маладосць таксама адплывае,
Ды за сабой, як дзіва пакідае
Дзіцячы смех на радаснай зямлі.

Не жнеі ў полі жыта жнуць цяпер.
Ды на стале заўсёды хлеб, як сонца.
І каласіцца на зямлі бясконца
Жыццё, калі пасеяны давер.

Усходзіць ён, каб кожнага вітаць,
Хто хлебароба сэрцам разумее,
Хто ад паловы зернейка адвее,
Каб на палях хадзіла мірна рацьь.

Пакуль усе прымаем так, як ёсць.
Але надзея думкі акрыляе,
Што новы дзень нас мірна прывітае,
І скажа старасць: «Дзякуй, маладосць»!

### УЗЛЁТ

Навокал кветачкі нідзе.
Ды сонца снег з палёў зганяе.
І вось пчала ужо гудзе:
Узятак першы свой шукае.

Нідзе не знойдзены нектар.
Праз дзень вярба цвіце: узятак.
Не бачыць нават і пчаляр,
Што гэта у працы пчол пачатак.

І краскі вось ужо цвітуць...
Праз тыдні, месяцы работы
Ужо і з ліпы мёд нясуць
І напаўняюць цудам соты.

Пчаляр у бочку мёд той лле.
І хваліць пчол за шчодрую работу...
І усё ж прыпомніцца пчале
Вясновы мёд, гаркавы мёд узлёту.

**Феліка ШКІРМАНКОЎ**

### ГОСПОДА, ТОВАРИЩИ, НАРОД...

В семнадцатом товарищи турнули всех господ.
И с тем вошёл в историю навечно этот год.
Товарищам казалось, что это навсегда,
Что больше не воскреснут буржуи никогда.

#### ГОСПОДА

Когда зашёл о партии серьёзный разговор,
И за Кремлёвский глянули таинственный забор,
Вчерашние товарищи — партаппарата знать
Решили, что пришла пора и надо начинать.
Поплыли миллиарды в валюте и в рублях
В коммерческие фирмы на долевых паях.
А сами уходили на новые посты,
Сжигая за собою для верности мосты.
Чтоб очень любопытные искали долго брод,
И, чтобы успокоился озлившийся народ.
Иные уходили поспешно в мир иной,
И уносили тайну партбизнеса с собой.
Не стоит удивляться, ведь в сущности всегда
Сидели в мягких креслах у нас комгоспода.
С господскими замашками, с ликбезом за
душой,
Они перед народом создали имидж свой:
Простая униформа, улыбка на лице,
И все с партинкубатора — подлец на подлеце!

#### ТОВАРИЩИ

Товарищи с упорством былое берегут
И к памятнику Ленина цветы несут.
Под красными знамёнами шагают в никуда,
Народ предупреждают: «Грядёт беда!».
И призывают истово: «Спасём социализм!
Готовят демократы для вас капитализм!»

#### НАРОД

Когда заставит время
свой путь определять,
Тогда сумеет каждый
куда пойдёт сказать....
Одни за коммунистами
наверняка пойдут
В надежде, что за это
они дадут
Бесплатно телогреечку,
со скрипом кирзяки...
Дадут, не опоздайте,
идите, земляки!
Другие быть хозяином
хотят — не холуём,
И не хотят как жили
и как теперь живём.
А большинству до лампочки
что Чикин, что Позьняк,
когда концы с концами
не сводятся никак.
И, потеряв терпение,
такое говорят,
Что эти выражения
печатать не хотят.
А кое-кто в запале,
конечно, сгоряча
Совсем уж неприлично
помянет Ильича.

#### ЭПИЛОГ

Давно ему стал в тягость
гранитный пьедестал.
Эх, если б было можно,
он многое б отдал,
Чтоб с постамента тайно
в Швейцарию бежать
И всё без промедления
по-новому начать...




Малюнак В.САКОВІЧА.

**Іван ЛАПО**

### ЧАРНОБЫЛЬСКІ РАДОК

Чарнобыльскі радок
Пішу восьмы гадок.
Ідзе стары дзядок,
Які збіраў мядок.

Ён з «зоны» пераехаў толькі,
А год мінула колькі, колькі...
На свой паверх, на пяты,
А не да роднай хаты.

Ідзе, ідзе, ступае...
Вось дзверы адчыняе:
Сцямнелі з кірзы боты,
Што знялі шмат работы.

Сеялі, аралі —
Усё яны спазналі.
Хай жыў не так багата,
Ды грэла сэрца хата.

Патрэбна ж не так многа:
Вясковая дарога,
Перасяленцу тому,
Зямелька вакол дому.

А нашыя ж выгоды
Хіба ўсяму народу?
Я ўвесь час разважаю
Ад горкага адчаю.

Цячэ, цячэ вада...
Агульная бяда.
І хто тут вінаваты?
Дзядок той сіваваты?

Або нястрымны час?
А можа, кожны з нас?!
Хачу спытацца вас,
Ды й ці знайду адказ.

#### РАНА

Ужо за тое, што жывём у
зоне,
Нам медалі пара усім даваць.
Бо радыяцыяй гарыць
наўколле,
Ды і сама зямля дае нам
знаць.

Хто ж працаваў у зоне той
часова,
(Не будзем тут ужо шукаць
прычын)
Жыве сабе вальготна ў чыстай
зоне.
І льготы мае ледзь не кожны
чын.

Туды, бы ў прынудзілаўку,
кіруюцца — ўрачы,
Настаўнікі і іншы кантынгент.
Часова, і за плату. Каб
дапамагчы.
І не страшны ім нейкі там
рэнтген.

А тут сабе, паціху, дажывае
мама
Свой век, дзядкі, бабулі,
іх сыны.
І паміраюць ціха, без вайны.
Без льгот, кватэр і медалёў
таксама.

Баліць, баліць на сэрцы маім
рана.
Пра справядлівасць гаварыць
не час.
Спрачаюцца дзесь дэпутаты
апантана.
Няхай жа людцы, абміне
бяда, усіх вас!

#### РАДОК

Чарнобыльскі радок
Мой недапісаны.
Тут мой выток,
Тут я распісаны.

**Ірына КЛІМАВА-ДАЎГАЛЁВА**

### О МУЗЫКЕ

Единственная радость —
Общение с тобой,
Моя мечта и сладость —
Чуствительный прибой.

Предчувствие везенья —
Блистательной поры,
Горю от нетерпенья
Взять счастье от игры.

Вся жизнь — игра с судьбою,
Желание любить,
Желанье быть собою
И без унынья жить.

Унынье — грех тяжелый,
Но даст Бог и простит
И стану я весёлой;
Я — женщина-пиит.

Сейчас же кружат звуки
И с ними я кружусь.
Душа поет, а руки
Все пишут — губят грусть.

### ЖЫВЫ ФАЛЬКЛОР

**Данута ШКЛЯР,**
**г. Ліда.**

Дапусціў урад разруху,
Усім працоўным на бяду.
Каб не умерці з галадухі,
Я за фермера пайду.

**Юрась САЛОДКІ,**
**г. Гарадок**

Без вайны у нас разруха —
Нават працы не знайду.
Каб не ўмерці з галадухі —
Я у фермеры пайду.

**Язэп СЯМІЖОН,**
**г. Дзяржынск**

З неба зорачка упала
Прама Кебічу на нос.
Жыць народу цяжка стала,
У эканоміцы — хаос.

З неба зорачка упала
Лукашэнку на вучы,
У магазінах знікла сала,
Няма й таннай каўбасы.

**Кацярына СМОЛЬ,**
**г. Орша**

З неба зорачка упала,
Аб сундук разбілася.
Эканоміка краіны
Ушчэнт развалілася.

**Антось ЖЫЛІН,**
**г. Шклоў**

Каб было удосталь хлеба
Прэзідэнта выбраць трэба.
Кебіч нам не падыходзіць —
Ён за нос нас толькі водзіць.

Лукашэнку выбіраць
Таксама не гадзіцца:
Ён мастак пабалбатаць,
А не свайго дабіцца.

Стала масла дарагое,
Не хапае й малака
Каб жыццё, браток,
палепшыць —
Галасуй за Пазняка!

**Алена ВЯСЁЛАЯ,**
**г. Горкі**

Як там Кебіч ні малюе,
Я скажу наверняка,
Што народ прагаласуе
За Зянона Пазьняка!

**Сымон КАРОЛЬ,**
**г. Мінск**

Нас да выбараў рыхтуюць
Прама на рабоце,
А мы ўсе давайце дружна
Кебіча «пракоцім»!


Галоўны рэдактар В.А.Даўгалёў

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220068, г. Мінск, вул. Гая, 38-1, для пісьмаў: 213670, Магілёўская вобл., Хоцімскі р-н, в.Маркаўка, д. 35. Тэлефоны у Хоцімску: галоўнага рэдактара — 22-9-89, намесніка гал. рэдактара — 22-00-9.

Падпісана ў друк 11.03 ў 18 гадзін.

Заснавальнік — працоўны калектыў рэдакцыі.

«Беларускі Усход». На беларускай мове. Незалежная грамадска-палітычная, літаратурна-мастацкая і гаспадарча-камерцыйная газета. Выходзіць па суботах.

Пункт гледжання аўтараў друкуемых матэрыялаў можа не супадаць з пазіцыяй рэдакцыі.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор, дакладнасць і дакладнасць даных, асабістых імён, геаграфічных назваў і іншай інфармацыі, а таксама за тое, калі ў матэрыялах змешчаны даныя, якія не падлягаюць адкрытай публікацыі. Рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Газета «Беларускі Усход» прымае заказы на змяшчэнне аб'яў і рэкламы.

Індэкс 64098 Газета надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні, вул. Першамайская, 70. Тыраж 1000 экз. Кошт 300 руб. Аб'ём 1 друк. аркуш. Заказ. 4.